*І сэрцам палюбіў я гэты кут — цябе, мой старадаўні родны Слонім.*

*Алег Лойка*

# Слонімскі край



2019, № 8(42). Жнівень

## Альбярцінскія львы

*Працяг на ст. 3*

## Пра зялёнадубца Уладзіміра Ксяневіча

Сярод слонімцаў, якія змагаліся за незалежнасць БНР, адным з самых актыўных быў Уладзімір Ксяневіч. Ураджэнец Альбярціна быў чалавекам ідэйным. Не палітыкам — вайскоўцам. Разам з аднадумцамі ён уваходзіў у арганізацыю “Зялёны дуб”, якая ў 1921-м не пагадзілася з падзелам Бацькаўшчыны паміж Польшчай і савецкай Расіяй ды працягвала ўзброеную барацьбу супраць бальшавікоў. Яна для Ксяневіча скончылася трагічна — арышт, смяротны прысуд, заменены турэмным зняволеннем, жыццё пад кантролем савецкіх спецслужбаў, зноў арышт і зноў смяротны прысуд…

Біяграфію Уладзіміра Ксяневіча напісала гісторык Ніна Стужынская. Яна працавала з яго крымінальнай справай, кантактавала са сваякамі. Гэты тэкст Стужынская даслала для публікацыі ў “СК”. У жнівеньскім нумары змешчана яго першая частка.

●Сяргей Ёрш

*Працяг на ст. 5*



# 5 мільёнаў долараў на абнаўленне горада

Слонім падрыхтаваўся да Дня беларускага пісьменства і друку, якое будзе адзначацца 1 верасня. Як інфармуе sb.by, агулам на абнаўленне горада планавалася патраціць больш за 5 мільёнаў долараў. Галоўны аб'ект — Малы канал Агінскага, які нарэшце дачакаўся хаця б частковага добраўпарадкавання. У лепшы бок змяніліся і вуліцы, якія знаходзяцца побач. Віцэ-прэм'ер Ігар Петрышэнка падчас візіту ў Слонім сказаў, што наш горад *"цікавы найперш сваім гістарычным мінулым"*. Ён спадзяецца, што канал Агінскага стане візітоўкай горада. Як і помнік Льву Сапегу. "*Мы сапраўды ганарымся сваёй культурай, сваёй мовай,* — кажа Петрышэнка. — *Але неабходна далей развівацца, прапагандаваць вывучэнне гісторыі нашай краіны, перадаваць нашы веды цяперашняму і будучым пакаленням".*

Выдатныя словы. Шкада толькі, што гаворыць іх не слонімскі чыноўнік.



*Ігар Петрышэнка / БЕЛТА*

ХРОНІКА

# Двухмоўнае графіці




У жніўні цэнтральныя СМІ зноў выбухнулі матэрыяламі пра "скандальнае" ці "недарэчнае" графіці ў Слоніме. Вясной на адным з будынкаў па Чырвонаармейскай вуліцы надпіс на графіці пра знакаміты тэатр Агінскага зрабілі па-руску. Калі людзі абурыліся, мясцовыя чыноўнікі паабяцалі, што да Дня беларускага пісьменства ён стане беларускамоўным. Пасля перадумалі. Намесніца старшыні Слонімскага райвыканкама Тэрэса Юшкевіч заявіла "Нашай ніве", што "гэта графіці рыхтавалася не да Дня пісьменства, а ў межах добраўпарадкавання горада". *"Мы правялі апытанне ў сацсетках,* — працягвае чыноўніца. — *Большасць слонімцаў выказаліся за рускую мову".*

Вось так. Раней правялі апытанне і большасць слонімцаў выказаліся не за Тэатральную плошчу, а за плошчу Леніна. Цяпер — за рускую мову. Што там наступнае?

Скандал атрымаўся такі гучны, што ім зацікавіліся не толькі ў Гродне, але і ў Мінску. У ноч з 8 на 9 жніўня графіці зрабілі... двухмоўным, беларуская мова на ім галоўная.

Гэтая сумная гісторыя не дадала пазітыву іміджу нашага горада. За свежай фарбай фасадаў не схаваць сутнасныя рэчы.

●Сяргей Ёрш



# Альбярцінскія львы

*Працяг, пачатак на ст. 1*

*Падчас рэканструкцыі канца 1940-х ці пачатку 1950-х*

У фондах Беларускага дзяржаўнага архіву кінафотафонадакументаў знайшліся здымкі, зробленыя ў Альбярціне ў канцы 1940-х ці ў пачатку 1950-х гадоў. На іх невядомы фатограф зафіксаваў былы палац Пуслоўскіх і навакольныя будынкі ў час іх рэканструкцыі. Нас зацікавіла скульптура адзінокага стаячага льва, якая не захавалася да нашага часу. Летась у “Газеце Слонімскай” Жанна Іванова пісала, што каля ўваходу на тэрасу ля палаца стаялі дзве такія скульптуры, і абедзьве яны не захаваліся, засталіся толькі на здымках.* Раней былі апублікаваныя фота гэтых львоў, зробленыя ў гады Першай сусветнай вайны і міжваеннага часу. У гэтым нумары “СК” змяшчаем тры пасляваенныя фота. На іх скульптура стаячага льва ўжо адна. Пасля знікне і яна.** На тым месцы, дзе была тэраса і стаялі львы, пабудавалі лесвіцу і зрабілі яшчэ адзін ўваход у будынак.



*На здымку міжваеннага часу справа бачым скульптуры львоў*

Магчыма нехта з нашых чытачоў падкажа, які ж быў лёс гэтых львоў, ці хаця б у які час яны зніклі.

●Сяргей Ёрш

*Працяг на ст.4*

# Альбярцінскія львы

*Падчас рэканструкцыі. Справа — скульптура льва*

*Працяг, пачатак на ст.3*

**Иванова Ж. Уникальные фотоснимки исчезнувших львов из имения Пусловских в Альбертине // 26 ліпеня 2018;*

*https://www.gs.by/2018/07/26/unikalnye-fotosnimki-venetsianskih-lvov-vo-dvortse-puslovskih-v-albertine/*

***Не трэба блытаць скульптуры стаячых львоў, якія не захаваліся, і ляжачых львоў, якія дагэтуль знаходзяцца каля галоўнага ўваходу ў будынак. Пра апошніх Валянціна Караткевіч і Анатоль Кулагін пісалі наступнае: “Галоўны ўваход аформлены скульптурамі ляжачых львоў — дэкаратыўны элемент архітэктуры класіцызму першай паловы XIX ст.” (Помнікі Слоніма. Мінск, 1983. С. 48).*



*На здымку Першай сусветнай вайны — скульптуры львоў*





*Фота з кнігі “Dzieje rezydencji na dawnych kresach Rzeczypospolitej” / R. Aftanazy. Wrocław; Warszawa; Kraków, 1992. T. 2*

# У засені “Зялёнага дуба”. Атаман Грач

## Дзве расстрэльныя справы

Званок з Екацярынбурга ў красавіку мінулага года падараваў радасць нечаканага адкрыцця. Чалавек з расійскага далёка назваўся Юрыем Каюковым. Як высветлілася з размовы, інтэрнет дапамог яму знайсці ўзгадкі пра родных з Беларусі. Ен зацікавіўся той часткай гісторыі краіны, у якую патрапіў яго дзед, Уладзімір Францавіч Ксяневіч-Грач.

У выніку нашага супрацоўніцтва з кавалачкаў, вядомых кожнаму з нас паасобку, склалася больш менш праўдзівая карціна жыцця зялёнадубца атамана Грача.

Сваю частку яго гісторыі я здабыла дастаткова даўно, у “ліхія” і вольныя 90-я, якія абрынулі архіўныя заслоны. У спецсховішчы КДБ РБ мне пашчасціла патрымаць у руках крымінальную справу па абвінавачванню У. Ф. Ксяневіча-Грача, кіраўніка Галоўнага штаба партызанскіх аддзелаў “Зялёнага дуба”. Гэтую, так бы мовіць, першую частку яго жыццяпісу склалі тут, у Мінску, вядомыя беларускія чэкісты. Спадар Каюкоў у сваю чаргу даслаў мне копію следчай справы № 10613 па абвінавачванню Ксяневіча У. Ф. па арт. 58-6 КК РСФСР. Гэта быў вынік плённай працы супрацоўнікаў Балейскага раённага аддзела УНКУС па Чыцінскай вобласці. Такім чынам, не прайшло і дзесяці гадоў, як знайшлася крыніца з адлюстраваннем фінальнай часткі жыцця майго героя. Як гаворыцца, зраслося.

Мае каштоўнасці з цяжка даступнага для даследчыкаў архіва — пратаколы допытаў, паказанні, пісаныя ўласна, агентурныя данясенні, ліставанне зацікаўленых асобаў,




*Вокладка архіўнай справы / кніга “Щит и меч Отечества”*

фотаздымкі — датуюцца 1922-1925 гг. Беларуская справа была заведзена 12 чэрвеня 1925 года і за два тыдні падрыхтавана да суда. Але ў ёй сабраныя матэрыялы пра антысавецкую тэрарыстычную дзейнасць Грача з моманту ўступлення ў “Беларускую сялянскую партыю “Зялёны дуб” (восень 1920 года) і да яго пераходу ў савецкую Беларусь у кастрычніку 1924 года. Чыцінскія матэрыялы маюць крайнія даты: 25 студзеня 1938 — 4 ліпеня 1939 года.

Абедзве справы маюць аднолькавы вынік — прысуд да вышэйшай меры пакарання — расстрэлу. Але ў 1925 годзе падсудны змог яго пазбегнуць, адклаўшы непазбежнае на 14 гадоў і заплаціўшы вельмі дарагую цану за памілаванне. Драма шэфа штаба “Зялёнага дуба” была тэмай шэрагу гучных газетных публікацый у БССР на працягу 1925-1926 гадоў. Крыніц, як бачым, няшмат, таму

# У засені “Зялёнага дуба”. Атаман Грач

*Працяг, пачатак на ст. 5*

што дзейнасць нашага героя была заканспіравана і звязана са сферамі зацікаўленнасці выведак і контрвыведак. Гэты момант падкрэсліваю асобна для аматараў “чысціні жанру” і няздольных да аб’ектыўнай дабразычлівай крытыкі. Нават зараз матэрыялы такіх гісторый цяжка адшукаць.

Да месца будзе падкрэсліць своеасаблівасць такога кшталту архіўных крыніц. Трэба памятаць, што дакумент з’яўляецца на свет ва ўмовах няшчырасці і жадання пазбегнуць праўды. Ісціна непажадана для абодвух бакоў. У следчага — адны мэты, у падследнага — іншыя. Дакумент, які называецца крымінальнай справай з адпаведным нумарам, пішацца ў суаўтарстве. У дадзеным выпадку гэта сумесны твор зялёнадубца Грача і следчага Афрыкана Пятрова. У гісторыі “Зялёнага дуба” гэты чэкіст адыграе не апошнюю ролю і заслугоўвае быць узгаданым адмыслова. Упаўнаважаны АДПУ савецкай Беларусі Пятроў распрацоўваў амаль усе справы зялёнадубцаў. Грач з іх не першы. У 1921-22 гадах чэкіст вёў следства некалькіх атаманаў з Ігуменшчыны. У справе аднаго з іх, Уладзіміра Гаркавенкі, захавалася скарга на следчага ў вышэйшыя інстанцыі: “Ён, Пятроў, ўжо з раніцы не можа без нянавісці глядзець на падследных і іх сваякоў, пакутваючы ад жадання апахмяліцца”.* Зялёнадубцы, якія складалі ліст, адзначылі неаб’ектыўнасць і нічым не апраўданую жорсткасць следчага. Затое бездакорнымі паўстаюць вобразы слаўных дзяржынцаў са старонак літаратурных твораў пра добрых і справядлівых чэкістаў і крывавых бандытаў. Нарысы



*Уладзімір Ксяневіч з сям’ёй, 1920-я гады*

Іллі Барысава “пра падрыўную дзейнасць антысавецкай нацынаялістычнай арганізацыі “Зялены дуб” прэзентуюць стрыманага інтэлігентнага Пятрова, імпульсіўнага, але разумнага Генкіна (яму будзе перададзена крымінальная справа Грача) і іншых таксама выключна пазітыўных. Назіраў за гульней з “вядомай птушкай” мудры і разважлівы Апанскі, дарэчы на момант следства яму было 27 гадоў, на тры гады маладзейшы за Грача.

У выніку няпростага дыялогу Уладзіміра Францавіча з “інтэлігентным” Афрыканам Пятровым, настойлівай апрацоўкі душы і цела падследнага “імпульсіўным” Генкіным нарадзіўся своеасаблівы нарыс жыцця, сведчанне складанага лесу чалавека, які трапіў разам з усім грамадствам у вялікі сацыяльны разлом.

### Фрагменты з асабістага

Уладзімір Францавіч Ксяневіч нарадзіўся ў чэрвені 1894 года ў пасёлку Альбярцін каля горада Слоніма ўдваранскай сям’і. Бацька, Франц Людвігавіч Ксяневіч, — вайсковец, падпалкоўнік 118-га Шуйскага палка царскай арміі, у пачатку 1920-х служыў у польскім войску. Грач у сваіх паказаннях узгадаў, што бацька займаў пасаду каменданта горада Слоніма. Пра гады дзяцінства амаль нічога невядома. Няма дакладных звестак пра яго маці. Есць падстава думаць, што яна з дому Барысевічаў, паколькі родны дзядька Уладзіміра з боку маці зваўся Барысевіч Канстанцін Канстанцінавіч. Пляменнік раз-пораз наведваў яго ў маёнтку ў мястэчку Каменскае каля Екацярынаслава. Доўгі час у вёсцы Малыя Гарадзяцічы, і да кастрычніцкага перавароту і пасля, жыў другі дзядька, брат бацькі Іосіф Ксяневіч. Менавіта ў яго маёнтку знайшла прытулак сям’я атамана — жонка і дзеці — падчас яго баявых вандровак.

На допыце 17-га чэрвеня 1938-га года Уладзімір Францавіч на загад следчага пералічыць сваякоў назваў сястру Венгржыноўскую (у шлюбе) Яўгенію Францаўну, на той момант яна жыла каля Лунінца. Прозвішчы стрыечных, якіх Ксяневіч меў шмат у Заходняй Беларусі і на савецкім баку, ён не памятаў. У Слоніме, Альбярціне, Лунінцы, на мой

погляд, варта было б пашукаць сляды сям'і, звесткі пра цікавыя нам персанажы, з тым, каб дэталізаваць рэканструкцыю атаманскай гісторыі, сабраць і скласці з рознага кшталту фрагментаў, якія знаходзяцца, бывае, у самых нечаканых месцах.

Уладзімір спачатку скончыў кадэцкі корпус у Варшаве, потым Мікалаеўскую вайсковую вучэльню ў Пецярбургу, якраз напярэдадні Першай сусветнай вайны. У 1914-м па выхадзе з вучэльні быў накіраваны на германскі фронт. Ваяваў у складзе штурмавога батальёна VI арміі ў Румыніі. Там даведаўся і аб кастрычніцкіх падзеях 1917-га ў Расіі. На фронце набыў спецыяльнасць сапёра і вайсковага будаўніка. У мірныя прамежкі часу будаваў масты пад Варшаваю, у Пружанах, Альшанах і іншых мясцінах.

Не зважаючы на вайну, у 1915-м годзе Ксяневіч ажаніўся ў вельмі маладым, насуперак традыцыям сям'і, узросце. Нарадзіліся дзве дачкі — Лізавета (1916 г. н.) і Алена (1919 г. н.). Жонка, маці яго дзяцей, засталася ў цені свайго неардынарнага мужа. Аб ей звестак мала. Большасць з іх на старонках пратаколу, складзенага начальнікам Балейскага раённага аддзела УНКУС сяржантам дзяржбяспекі Чарамісіным. 25-га студзеня 1939-га года Ксенія Максімаўна, так яе звалі, праходзіла ў якасці адзінай сведкі па справе мужа. Яна нарадзілася ў 1889-м (у пратаколе памылкова пазначаны 1883 год) у Пецярбургскай губерні. Знаёмства маладых людзей, хутчэй за ўсё, адбылося ў паўночнай сталіцы Расіі, дзе навучаўся малады шляхціц з Гродзеншчыны. У першы свой адпачынак Уладзімір з фронту адразу накіраваўся у Маскву, куды пераехала каханая. Там пажаніліся. Мядовы месяц доўжыўся 15 дзён. Па ваенных часах — рэдкая ўдача. А потым малады муж заспяшаўся на месца службы ў свой 4-ы корпус пад Варшаву.




Наступным разам лёс звёў іх у пачатку 1918-га года ў Разані, дзе пасля развалу царскай арміі капітан Ксяневіч знайшоў жонку і дачку. Тут яны затрымаліся толькі на паўгода. Дачакаўшы лета, рушылі на радзіму пад выглядам уцекачоў. Маладую сям'ю гасцінна прыняў дзядзька Іосіф. Як распавядала Ксенія Максімаўна следчаму, ужо ў верасні муж выехаў да сваякоў маці ў пошуках працы ў Екацярынаслаўскую губерню і знік на шэсць гадоў. У яго адсутнасць нарадзілася другая дачка. Праўда, у 1921-м Ксенія Максімаўна нечакана атрымала ад мужа ліст з Вільні. Ён пісаў, што хадайнічае перад польскім урадам аб дазволе аб'яднання з сям'ёй і раіў ёй звярнуцца да польскага консула ў Мінску. З матэрыялаў вынікае, што ў справе атамана было 15 лістоў да жонкі. Захаваўся толькі адзін. Астатнія адабралі падчас следства, а потым проста выкінулі. *"Мой мілы слаўны сябра, дарагая Кіса,* — звяртаўся палявы камандзір да каханай. — *Чаму ад цябе так доўга няма адказу? Чым гэта можна патлумачыць? Дакументы ўжо ў Мінску. Усё, што ад мяне залежала, я зрабіў... Не падумай, дарагая, што я не хачу вас бачыць, усё, што я раблю, я раблю для нашага сумеснага шчасця. Чакалі так доўга, пачакаем яшчэ крыху. Да вашага прыезду я пастараюся лепш уладкавацца, каб вы не мелі клопату ні з чым. Пішы мне часцей, мая радасць, заўсёды чакаю твайго ліста... Цалую цябе і дзетак. Не забывайце мяне ў малітвах... Няхай беражэ вас усявышні... Твой Вовік".* Звычайны ліст клапатлівага бацькі і ўлюбёнага мужа.

Рэдка, але яны сустракаліся падчас яго баявых рэйдаў у

# У засені “Зялёнага дуба”. Атаман Грач

*Працяг, пачатак на ст. 5-7*

савецкую Беларусь. Мяркую, што дзейнасць супруга не была для яе вялікай таямніцай. Пасля пераходу Грача на савецкі бок, Ксенію прывезлі ў Мінск у ДПУ. Памочнік начальніка аддзела КРА (аддзел контррэвалюцыі) Дамберг спытаў яе, ці ведае яна чалавека па прозвішчу Грач. Пасля адмоўнага адказу жанчыны, чэкіст прад’явіў *“Кісе”* яе любага *“Вовіка”*. Яна вымушана была прызнаць у арыштаваным свайго мужа, але сказала, што ніякага Грача не ведае. Мінская турма, куды змясцілі Ксяневіча-Грача, зноў разлучыла іх.

Пасля памілавання ў студзені 1927-га года Ксяневіч вяртаецца ў сям’ю. Спрабуе жыць звычайным абывацелем, працуе тэхнікам-будаўніком у камунальнай гаспадарцы Мазыра. Але сумеснае жыццё не заладзілася. У снежні гэтага ж года ён кідае жонку і дзяцей, перабіраецца ў Оршу. Там знаходзіць прытулак у свайго сябра, агранома Неймана, і ўладкоўваецца на працу тэхнікам па школьным будаўніцтве пры акружным выканкаме. Ці то не вытрымаў атаман выпрабавання сямейным шчасцем, ці то з’явіліся абавязкі перад новымі гаспадарамі, якія “падаравалі” яму жыццё, — невядома. Дакладна можна сказаць, што сямейны разлад быў глыбокі, хаця і меў часовы характар. Ксяневічы развяліся.

Нейкая Сцепаніда Пажыткова, фельчарка афтальмалагічнага аддзялення аршанскага шпіталю, стала новай жонкай Грача. Праўда, калі браць на веру матэрыялы следства, спачатку яго спакусілі зусім не жаночыя вартасці


БЕЛАРУСКАЯ
ЗЯЛЕНАГО ДУБА
BEŁARUSKAJA
Partyja
ZIALIENAGO DUBA
№

Сцепаніды, а яе агентурнае майстэрства і шырокія сувязі ў асяродку вайскоўцаў. Некалі нарачоная белагвардзейца, расстралянага чырвонымі, яна хутка захапілася былым зялёнадубцам і дапамагала яму ў контррэвалюцыйнай дзейнасці. Хутчэй за ўсё, следчы імправізаваў. Але Ксенія так проста не саступіла фельчарцы бацьку сваіх дзяцей. Яна прыязджала ў Оршу, мела жорсткую размову з разлучніцай. Паўплываў яе візіт на рашэнне Уладзіміра ці не, але ён вярнуўся ў сям’ю, якая кватаравала ў той час у Мінску.

Чытаючы матэрыялы следства, адчуваеш шмат разнастайных складаных пачуццяў, перажытых нешчаслівай жанчынай. Яна саромелася гэтых глыбока асабістых падрабязнасцяў. Ёй непрыемна было пагаджацца са следчым, які вытанчана нахабна маніпуляваў спісам сапраўдных і прыдуманых захапленняў мужа. Спецорганы заўсёды глыбока капаюць жыццё тых, хто меў неасцярожнасць трапіць у зону іх увагі. Чуткі, плёткі, даносы, сведчанні чалавечых слабасцяў і не вельмі прыгожых паводзін — усё будзе скарыстана для знішчэння чалавека, яго годнасці і душы. Але трэба заўважыць, Ксенія Максімаўна не дазволіла сабе ніводнага бруднага слова ў адрас супруга. Яна добра разумела, што не ўсё ведае з яго тайных спраў, і прыйшла на допыт, а не на споведзь, а следчы не святы айцец, а вораг сям’і, галоўнай яе каштоўнасці, якую яна ў тыя жахлівыя часы зберагала. Дастаткова стрымана яна выказала здзіўленне наконт вялікай колькасці жанчын, з якімі, як назойліва падкрэсліваў следчы, яе муж *“меў добрыя адносіны”*.

Прыгожы, калі меркаваць па фотаздымках, “высокі мужчына з пышнымі вусамі”, так апісаў Грача памежнік Кузьма Гарынцаў, які праводзіў затрыманне ў кастрычніку 1924-га. Моцны, упарты, імпульсіўны — па ўспамінах сучаснікаў — шляхетнага выгляду ў любых абставінах, Уладзімір Францавіч меў асаблівую прыцягальнасць для жанчын. Ён ніколі, нават у самых цяжкіх абставінах, не губляў цікавасці да іх. І яны былі ўдзячнымі ў адказ. У кожным новым месце ён хутка абрастаў рамантычнымі сувязямі. Яму сімпатызавалі кватэрныя гаспадыні, кліенткі Ксеніі (яна была добрай краўчыхай), супрацоўніцы, артысткі мясцовых тэатраў. Яго чакалі ў Мінску, Оршы, Мазыры, на Далёкім Усходзе. Праўда, імёны каханак і проста знаёмых жанчын з лёгкай рукі следчых Балея і Чыты скламіся ў спісы шпіёнак, тэрарыс-так, памагатых антысаветчыка.

●Ніна Стужынская

**Архіў КДБ РБ. Крымінальная справа Ул. Гаркавенкі.*

*Працяг у наступным нумары*

КНІГІ ПРА СЛОНІМ

# Фотаальбом "Слонім і ваколіцы"

Любое выданне пра Слонім — радуе. Парадаваў і фотаальбом "Слонім і ваколіцы", які выпусціла адно з брэсцкіх выдавецтваў накладам 600 асобнікаў. Гэта спецыяльны заказ Слонімскага райвыканкама з партрэтам старшыні Генадзя Хоміча і яго прадмовай, запрашэннем прыязджаць на Слонімшчыну.




Альбом складаецца са шматлікіх каляровых прыгожых фотаздымкаў Слоніма і аграсядзібаў раёна, дзе яшчэ ёсць школы, клубы, бібліятэкі і паштовыя аддзяленні. Альбом выпушчаны дзеля рэкламы раёна на беларускай і англійскай мовах. Дзіўна, што ў ім пазначаны, хто рэдактар, тэхнічны рэдактар, дызайнер, карэктар, чыя фотаздымкі і хто перакладчык. А там, дзе стаяць словы "аўтар тэксту", прозвішча адсутнічае. Тым не менш, я набыў гэты альбом у сваю прыватную бібліятэку ў слонімскай кнігарні "Санет", хаця кошт кнігі даволі вялікі. І ўважліва кнігу прачытаў, прагартаў, паглядзеў. Ёсць і шмат заўваг наконт тэксту, які пісаў невядомы аўтар.

На с. 6 згадваюцца Жыровічы, але чамусьці ў тэксце напісана "Жыровіцы". На с. 20 прыгадваюцца слонімскія літаратары. Праўда, Мікола Арочка стаў Мікалаем, Гальяш Леўчык — Галляшом. На с. 21 надрукаваны здымак лаўрэата Нобелеўскай прэміі фізіка Жарэса Алфёрава і напісана, што зроблены ён там (маецца на ўвазе ў Альбярціне — С. Ч.), *"дзе прайшло яго маленства"*. А гэта не так.

На с. 24 пад здымкам Слонімскага драмтэатра падпісана, што гэта Слонімскі тэатр... Агінскага. Добрую назву прыдумалі, хаця такі тэатр існаваў у Слоніме ў XVIII стагоддзі. Цяпер існуе ДУК "Слонімскі драматычны тэатр". Пад фота будынка Слонімскага цэнтра культуры і адпачынку (с. 25) падпісана, што гэта будынак раённага Дома культуры. Хаця на с. 24 змешчаны здымак з шыльдай, дзе напісана, што гэта цэнтр культуры.

Гарадскому парку ў фотаальбоме адведзена дзве старонкі. І подпіс: "Гарадскі парк мае шмат дзіцячых каруселяў…". Дзіўна, а ці ёсць, наогул, у нашым парку каруселі? І ці ёсць у Слоніме парк? Тое, што гараджане маюць — гэта далёка не парк, а набярэжная канала Агінскага…

Спіс гэтых заўваг можна працягваць. Але гэта не такія і сур'ёзныя недакладнасці. Галоўнае, што з'явілася новае выданне пра наш Слонім. А праз гадоў 10-20 шмат што зменіцца ў абліччах Слоніма і яго ваколіцаў, а здымкі нам будуць нагадваць пра 2019 год.

●Сяргей Чыгрын

# Рэвалюцыйны Слонім

У 1931 годзе ў маскоўскім часопісе *“Каторга и ссылка”* былі апублікаваныя ўспаміны А. Левандоўскага “На світанку жыцця”.[1] Яны прысвечаныя палітычнаму жыццю ў Слоніме ў пачатку ХХ стагоддзя. А. Левандоўскі — гэта псеўданім ураджэнца мястэчка Косава Слонімскага павета (цяпер — Івацэвіцкі раён) Яна Сцяпанавіча Плястэна (1889 — 1937). Як сапраўдны рэвалюцыянер, ён меў шмат псеўданімаў, сярод іх галоўныя — *“Саша Горный”* і *“Овод”*. Імя, імя па бацьку і прозвішча з нейкай прычыны вырашыў змяніць, стаў Іосіфам Іванавічам Жукоўскім-Жуком (варыянты — Жук, Жукоўскі, Жук-Жукоўскі). Ён успамінаў, што яго сваякі ўдзельнічалі ў вызваленчых паўстаннях, і яму перадалася ад іх прага да рэвалюцыйнай барацьбы. Падчас вучобы ў Слоніме (1903 — 1906) юнак далучыўся да рэвалюцыйнага руху, быў сябрам арганізацыі эсэраў-максімалістаў. Пасля пачалася вандроўка па Расійскай імперыі, Жукоўскі-Жук апынуўся ў далёкім Харбіне. Там яго і арыштавалі ў 1909-м. На той час косавец быў ужо ў аб’яднанай групе эсэраў і анархістаў. Прысуд — 12 гадоў катаргі. Зняволенне толькі загартавала рэвалюцыянера. У 1917-м пасля лютаўскай рэвалюцыі ў Расіі Іосіф Жукоўскі-Жук выходзіць на волю. Ён дзейнічаў у Чыце і Благавешчанску, быў на легальнай і нелегальнай працы. Як эсэр, займаўся агітацыяй і прапагандай, рэдагаваў газеты, выдаваў кнігі, спрабаваў сябе як літаратар (пісаў вершы, першы зборнік меў назву “Кветкі крыві”). Ва ўмовах камуністычнай улады не баяўся быць іншадумцам, арыштоўваўся бальшавікамі. З




1923-га жыў у Маскве, працаваў сакратаром выдавецтва Таварыства паліткатаржан. Заставаўся эсэрам, падтрымліваў сувязі з аднадумцамі. У 1925 годзе Жукоўскага-Жука зноў арыштавалі, ён атрымаў тры гады высылкі, жыў у Сімферопалі. Пазней пачаў друкаваць успаміны, брашуры пра народавольцаў, у тым ліку пра Ігната Грынявіцкага. За былым палітвязнем сачылі савецкія спецслужбы, якія зафіксавалі, што ён спрабуе аднаўляць кантакты з былымі эсэрамі. У 1933 годзе яго арыштавалі, зноў высылка, на гэты раз у Сібір. У 1937-м Іосіфа Жукоўскага-Жука арыштавалі ў чарговы раз і расстралялі. Рэабілітацыя адбылася ў 1959 годзе.

Біяграфія косаўца настолькі цікавая, што пра яго можна было б здымаць кінафільмы: рэвалюцыянер-падпольшчык, тэрарыст, паліткатаржанін, палітык-арганізатар, партызан, журналіст, паэт… Гэта быў ідэйны чалавек, які да канца жыцця не здрадзіў ідэалам, у якія верыў і за якія змагаўся. Ён нагадвае слонімца Яўгена Дацкевіча, пра лёс якога “СК” распавядаў сёлета.[2]

“СК” з гэтага нумару пачынае змяшчаць успаміны “А. Левандоўскага” пра жыццё і дзейнасць у Слоніме ў 1905-1906 гадах. Яны выдатна перадаюць атмасферу таго часу, змяшчаюць шмат цікавых дэталяў, у тэксце згадваюцца асобы вядомыя і невядомыя нам.

●Сяргей Ёрш

## На світанку жыцця

Да сацыялістычнага руху я далучыўся толькі ў 1905 годзе, але агульнарэвалюцыйныя яшчэ, мабыць, і не ўсведамлёныя сімпатыі і нянавісць да рускага царызму былі мне блізкія ўжо ў раннім дзяцінстве. Тлумачыцца гэта, па-першае, тым, што мястэчка Косава, Гродзенскай губерні, дзе я нарадзіўся, было радзімай знакамітага польскага рэвалюцыянера Тадэвуша Касцюшкі, дом якога захаваўся да гэтага часу на ўскраіне мястэчка ў невялікім маёнтку[3], а з ім захаваліся і рэвалюцыйныя традыцыі; а па-другое, таму, што бліжэйшыя сваякі — з боку маёй маці прымалі той ці іншы ўдзел у паўстанні 1863 года, за што і былі пакараныя высылкай у Сібір, выгнаннем і г. д. Натуральна, што рэвалюцыйна-патрыятычны дух, што панаваў у нашай сям’і, закрануў і мяне.

Паколькі праз русіфікацыю краю польскіх школ не існавала, я навучаўся роднай мове дома ў старэйшага брата, а пасля, закончыўшы рускую народную вучэльню, паступіў на 13-м годзе [жыцця] у Слонімскую гарадскую вучэльню, дзе прабыў 4 гады.

Наколькі я магу прыгадаць, рэвалюцыйная завіруха закранула Слонімскую вучэльню толькі восенню 1905 года. Да таго



часу гэта было стаячае балота. Ні гурткоў развіцця і самаадукацыі, ні падпольных рэвалюцыйных груп, ні іншых нейкіх формаў арганізацыі не існавала, калі не лічыць гуртка вучняў-палякаў, што арганізаваўся восенню 1904 года і якім кіраваў студэнт Варшаўскага політэхнічнага інстытута Іосіф Кудрэвіч. Гэты патрыятычны гурток, нягледзячы на поўную адсутнасць у яго праграме элементаў сацыялізму, меў усё ж для нас вялікае рэвалюцыянізуючае значэнне…

Быў пярэдадзень кастрычніцкіх падзей 1905 года. Павевы сацыяльна-рэвалюцыйнага руху прабіваліся з усіх расколін і куткоў, і наш кіраўнік Кудрэвіч, чытаючы тую ці іншую лекцыю, разбіраючы тое ці іншае пытанне, не мог не закрануць актуальнага, і атрута нянавісці да цырызму, кропля за кропляй, улівалася ў нашы юныя сэрцы. Мы чыталі нелегальную польскую літаратуру і на старонках амаль кожнага нелегальнага часопіса, кожнай брашуры мы сутыкаліся са слаўнымі традыцыямі паўстанняў 1831 і 1863 гадоў.

…Падзеі наспявалі. У горадзе ўсё часцей і часцей сталі выбухаць то тут, то там страйкі пад уплывам Бунда і, дзякуючы ўмяшальніцтву паліцыі, прымалі дэманстрацыйны характар. Пракламацыі бундаўскія, эсэраўскія і анархісцкія — апошнія з Беластоку — усемагчымых відаў і фарматаў штодзённа запаланялі горад. Траплялі яны, зразумела, і ў нашы рукі. Асабіста на мяне вельмі моцнае ўражанне зрабіла пракламацыя “Маніфест анархістаў-камуністаў-абшчыннікаў”, выдадзеная ў Беластоку. Пракламацыя гэтая спавядала аграрны тэрор і давала падрабязныя ўказанні, як падпальваць стагі сена памешчыкаў, захопліваць хлеб, скаціну і г. д.

Да нас трапляла і больш салідная нелегальная літаратура. Па руках хадзілі пераважна сацыял-дэмакратычныя выданні: *“Искра”*, *“Социал-демократ”*, *“Вперёд”* і шмат брашур: з эсэраўскіх выданняў — *“Революционная Россия”*, біяграфія Карповіча, Балмашова, Сазонава і Гершуні[4], і некалькі дробных анархісцкіх брашур. Распаўсюджваліся і легальныя кнігі: “Авадзень” Войніча, “Эма” Швейцара, “Гісторыя аднаго селяніна” Эркмана-Шатрыяна, “Барацьба за права” Францоза і інш.

Слонім — горад дробных рамеснікаў, падмайстэр’яў, аканомаў, калі не лічыць невялікага адсотку фабрычна-завадскіх рабочых: гарбароў, ткачоў, рабочых запалкавай фабрыкі, млыноў і г. д. Тым не менш, рабочы сацыялістычны рух тут быў развіты вельмі моцна, як і ўвогуле ў рысе яўрэйскай аседласці. У мой час у горадзе існавала некалькі сацыялістычных арганізацый: бундаўцы, сацыялісты-сіяністы[5] і маладыя эсэры (максімалісты); анархісты з’явіліся, здаецца, вясной 1906 года. Самай моцнай, уплывовай і папулярнай партыяй у Слоніме былі бундаўцы; увесь рабочы рух знаходзіўся пад іх уплывам.

Адпаведна гэтаму і прапагандысцкая праца сярод моладзі вялася пераважна сацыял-дэмакратамі (бундаўцамі).

*Працяг у наступным нумары*

**Левандовский А. На заре жизни // Каторга и ссылка, 1931, № 4. С. 100-124.*

*** Ёрш С. Яўген Дацкевіч — палітык, журналіст, літаратар, артыст // Слонімскі край, 2019, № 1(35). Студзень. С. 1-5.*

*[3] Андрэй Тадэвуш Банавентура Касцюшка (1746 — 1817) — ураджэнец былога Слонімскага павета, нацыянальны герой Беларусі, Польшчы, ЗША. Бацькоўская хата Касцюшкі ў Марачоўшчыне была спалена падчас Другой сусветнай вайны. Яе аднавілі ў 2004-м, там месціцца музей нашага знакамітага земляка.*

*[4] Пётр Карповіч (1874 — 1917), Сцяпан Балмашоў (1881 — 1902), Ягор Сазонаў (1879 — 1910), Рыгор Гершуні (1870 — 1908) — расійскія рэвалюцыянеры-тэрарысты.*

*[5] Яўрэйскія партыі.*



# Рэканструкцыя Жыровіцкага манастыра скончыцца ў пачатку 2020 года

Святкаванне 550-годдзя з'яўлення Жыровіцкай іконы Маці Божай і 500-годдзя заснавання Жыровіцкага манастыра пройдзе ў траўні 2020-га. Нядаўна быў створаны аргкамітэт, які ўзначаліў віцэ-прэм'ер Ігар Петрышэнка. Ён зоймецца падрыхтоўкай і правядзеннем святочных мерапрыемстваў. Рэканструкцыя будынкаў у манастыры мусіць быць скончаная ў першым квартале наступнага года. Добраўпарадкаванне закране ўсё мястэчка.

# Прыедуць Лукашэнка, Пуцін і патрыярх Кірыл

На святкаванне ў Жыровічы ў траўні наступнага года мяркуюць прыехаць беларускі кіраўнік Аляксандр Лукашэнка, патрыярх Кірыл і расійскі прэзідэнт Уладзімір Пуцін, інфармуе racyja.com. З гэтым і звязана вялікая ўвага ўладаў да рамонтных і рэстаўрацыйных працаў. Можна ўявіць, якія беспрэцэдэнтныя меры бяспекі будуць ужытыя вясной 2020-га.







svaboda.org

# Пра архіў і бібліятэку



У траўні 2019-га ў газеце *"Беларусь сегодня"* з'явілася публікацыя, прысвечаная Жыровіцкаму манастырскаму архіву і бібліятэцы.* Яе аўтары, Галіна Уліцёнак і Уладзімір Ліхадзедаў, згадваюць пра гэтыя скарбы, якія падчас Першай сусветнай вайны былі вывезеныя ў Расію і назад ужо не вярнуліся. Яны прыводзяць апісанне, зробленае ў канцы XIX стагоддзя святаром і гісторыкам Львом Паеўскім. На той час ужо нямала скарбаў было вывезена з Жыровічаў, у тым ліку і ў Вільню. Аднак на месцы заставалася багатая бібліятэка Жыровіцкай духоўнай вучэльні, якая займала два асобныя пакоі. У адным з іх кнігі знаходзіліся ў чатырох шафах (а раней — у васьмі), у іншым былі сабраныя самыя старажытныя выданні. Якраз апошнія і выклікаюць асаблівую цікавасць. Паводле слоў Паеўскага, каталогу не было. Ён пабачыў на паліцах еўрапейскія выданні XVIII-XIX стагоддзяў і нават ранейшага часу (згадваецца грэка-лацінскі слоўнік 1560 года). Частка іх трапіла ў Жыровічы з бібліятэкі калегіі брэсцкіх езуітаў. Што да архіву, то ён быў *"ва ўзорным парадку"* (дакументы ахоплівалі перыяд ад 1673 года), аднак заставаліся неразабранымі справы былога Быценьскага базыльянскага (уніяцкага) кляштара.

Артыкул багата ілюстраваны здымкамі з калекцыі Ліхадзедава. На адным з іх бачым сажалку ў Жыровічах у часы Першай сусветнай вайны.

●Генадзь Гурскі

**Улитенок Г., Лиходедов В. Архив обители // Беларусь сегодня, 2019, 25 траўня, № 96. С. 20.*

# Граната ў манастыры



Падчас рамонту брацкага корпуса Жыровіцкага манастыра на гарышчы знайшлі нямецкую ручную гранату. Можна толькі здагадвацца, хто і калі яе там схаваў. Гранату вывезлі і знішчылі сапёры, інфармуе гродзенская міліцыя.

# Маршрутка ў Слоніме з’явілася больш за 100 гадоў таму

Гісторык Андрэй Кіштымаў у артыкуле ў “Нашай гісторыі” (2019, № 7) пра першыя аўтамабілі ў Беларусі, згадаў і Слонім. Аўтамабілі на беларускай зямлі з’явіліся ў канцы XIX стагоддзя. А напярэдадні Першай сусветнай вайны пачалі з’яўляцца рэгулярныя міжгароднія аўтамабільныя пасажырскія перавозкі. Адзін з маршрутаў пралягаў з Драгічына праз Высока-Літоўск і Ружаны ў Слонім. У такім аўтобусе магло быць каля дзясятка пасажыраў ці нават менш.

Вясной 1914-га жыхар Ружанаў Моўша Башын збіраўся адкрыць рэгулярныя



аўтамабільныя перавозкі паміж сваім горадам і Пружанамі, Слонімам. Улады не далі згоды на гэты праект. Галоўнай прычынай стала фінансавае становішча прадпрымальніка: *“недастаткова забяспечаны ў матэрыяльным плане”*, а да таго ж непісьменны.

Аўтобусныя перавозкі дапаўнялі магчымасці чыгункі. Але іх шпаркае развіццё адбылося ў міжваенны час.

●Генадзь Гурскі

# Знаходка ў былой ратушы

У ліпені Следчы камітэт паведаміў пра знаходку падчас рамонтных працаў у будынку цэнтральнай раённай бібліятэкі (былой ратушы) ў Слоніме фрагментаў дакументаў канца XIX — пачатку XX стагоддзя. Гэта — паштовыя карткі, пасведчанне страхавой кампаніі “Саламандра” ды іншае. З-за таго, што былі знойдзены і косткі, СК праводзіць праверку.



# Першы “Паланэз”




У жніўні, дзякуючы падтрымцы Таварыства беларускай мовы, выйшаў слонімскі літаратурны альманах “Паланэз”. Яго рэдактарам з’яўляецца паэт і літаратуразнаўца Сяргей Чыгрын. У выданні сабраныя тэксты сучасных літаратараў Слонімшчыны і іх папярэднікаў. Агулам — больш за 40 аўтараў і паўтары сотні старонак.

●Генадзь Гурскі

Удакладненне

*У мінулым нумары на 13-й старонцы быў няправільна падпісаны фотаздымак. Замест слоў “Сцэна са спектакля “Жалезная заслона”, 1989 г.” мусіць быць наступны подпіс: “Сцэна са спектакля “Драўляны рыцар”, 1996 г.”.*

# Па старонках нямецкай ваеннай газеты




*Працяг, пачатак у №№ 5-7*

*Паводка вясной на Шчары. Малюнак Вальтэра Фэста, 1917 г.*

У 35-м нумары газеты “Kriegszeitung von Baranowitschi” (“Ваенная газета ў Баранавічах”) ад 2 траўня 1917 года з’явілася вялікая нататка ўнцер-афіцэра Вальтэра Фэста. Ён апісвае наш горад: вуліцы, храмы, крамы, тэатр/кінатэатр, вакзал, жыхароў горада і вяскоўцаў, піша пра галоўныя месцы адпачынку. Відавочна, аўтар нейкі час жыў у Слоніме і паспеў добра вывучыць яго жыццё.

### Мастацкае багацце Слоніма

На рацэ Шчары, якая бярэ пачаткі ў Калдычэўскім возеры і, пятляючы, працягнулася на 230 кіламетраў да ракі Нёман, размешчаны два значныя населеныя пункты — Слонім і Быцень. Калі Слонім маляўніча і шматколерна адлюстроўваецца ў плыні ракі, то Быцень, які знаходзіцца ў аддаленні ад берага Шчары, ні архітэктурай, ні заняткамі мясцовых жыхароў не можа цягацца са Слонімам.

Слонім ляжыць на некалькіх пагорках, цэнтрам якіх з’яўляецца гандлёвая частка. З-за наяўнасці розных этнічных груп, у горадзе пабудавана параўнальна вялікая колькасць культавых збудаванняў, чые вежы і шпілі страката і маляўніча ўзвышаюцца над іншымі стрэхамі: зялёныя цыбуліны рускіх [праваслаўных] цэркваў, чырвоныя і зялёныя вежы каталіцкіх касцёлаў і кляштароў, зялёныя дахі галоўнай сінагогі, сціплыя жаўтлявыя шпілі з паўмесяцам татарскай мячэці, сярэбраныя вежы гарнізоннай царквы і г. д. Цэрквы горада, з-за пагорыстай мясцовасці, стаяць на рознай вышыні і гэта спараджае маляўнічае, мастацкае багацце Слоніма. Агульны выгляд горада з гэтых пагоркаў ўяўляе цудоўную карціну. З некаторых вуліц можна пабачыць, што горад акружаны глухімі лясамі, якія цягнуцца да гарызонту...

Цэнтр гандлёвай часткі ўтварае вялікі крыты рынак з 150 аднолькавымі па памерах крамамі, з шырокім асартыментам тавараў. Тут у асноўным сфера паўсядзённай дзейнасці яўрэйскіх гандляроў. Рускія (мясцовыя жыхары-хрысціяне — “СК”) гандляры маюць свае крамы ў наваколлі вялікай сінагогі. Па вонкавым выглядзе яны адрозніваюцца сумнеўнай прыгажосцю, а па ўнутраным стане — сумнеўнай чысцінёй. На продаж яны выстаўляюць рыбу, гародніну...

У нядзелі гандлёвы рух на плошчы рэзка ўзрастае з-за



Slonim.



5 Pfg.

Kriegszeitung von Baranowitschi

Nr. 35. | Mittwoch, den 2. Mai 1917. | 2. Jahrg.

*Працяг на ст. 16*

# Па старонках нямецкай ваеннай газеты



*Працяг, пачатак на ст. 15*

*У адным з гэтых будынкаў на Параднай вуліцы былі тэатр і кінатэатр*

сялянаў, якія прыязджаюць з вёсак у сваіх рознакаляровых нацыянальных строях. Разам з прадуктамі харчавання, добра раскупляюцца амулеты рэлігійнага зместу, каляровыя хусткі і падобнае. На некаторых вуліцах у горадзе можна сустрэць чыстыя крамы, у якіх прадаюцца і новыя, і ўжо ўжываныя тавары...

Добра развітае гандлёвае жыццё ў Слоніме мала пацярпела ад вайны. Як і ў нямецкіх гарадах, тут маецца ў зоне адпачынку "Прагулачная вуліца" (маецца на ўвазе Парадная вуліца, цяпер гэта ніжняя частка Першамайскай вуліцы — "СК"). Там бывае вельмі інтэнсіўны рух пасля абеду, асабліва ў пятніцу ўвечары, перад габрэйскім "Шабатам". Выступы армейскага духавога аркестра ўпрыгожваюць агульную атмасферу і карыстаюцца папулярнасцю ў жыхароў.

Маецца ў Слоніме і тэатр. Над гэтым будынкам архітэктар, відаць, не вельмі пастараўся... Гэтае збудаванне з балконам нагадвае нешта сярэдняе паміж храмам музаў і стайняй. Яго нельга параўноўваць з нямецкімі маштабамі. Драўляная лесвіца моцна знасілася, прыступкі хісткія, тынкоўка ў многіх месцах абсыпалася... Зараз у гэтым будынку знаходзіцца кінатэатр. Падняўшыся вышэй, па вінтавой лесвіцы, вы трапляеце ў кавярню, дзе можна ў сціплай абстаноўцы добра адпачыць. Якая сітуацыя ў гэтым будынку з пажарнай бяспекай, пра гэта лепш не казаць.

У адукацыйна-школьным накірунку Слонім характарызуецца добра развітай гімназіяй. Пасля кароткай паўзы, дзякуючы дапамозе нямецкай управы, усе школы былі зноў адкрыты.

Сярод грамадскіх будынкаў можна згадаць яшчэ ратушу (гарадскія ўлады ў той час знаходзіліся ў будынку цяперашняга МНС на скрыжаванні Хлюпіна і Камуністычнай — "СК"), да якой прымыкаюць пажарны склад і трэніровачная пажарная вежа. У горадзе маецца таксама сістэма водазабеспячэння. Каб падтрымаць яе ў добрым

стане, нямецкая камендатура прыкладае вялікія намаганні, таксама як і ў галіне пажарнай бяспекі, аховы здароўя, санітарнай чысціні на вуліцах і плошчах. Пасля заняцця горада нямецкімі салдатамі была дабудавана воданапорная вежа.*

Адно рэчышча Шчары раней перарабілі ў канал. Берагі тут ўмацаваныя драўлянымі палямі, уздоўж канала растуць старыя дрэвы, што стварае маляўнічую і ціхую прагулачную алею.

Гарадскі вакзал ляжыць на чыгуначнай лініі Баранавічы — Беласток. Звонку ён упрыгожаны безгустоўнымі на выгляд кветнікамі з вялізнымі чырвонымі драўлянымі мухаморамі і мазаікай з размаляваных камянёў...

## Агрэгат на Гандлёвай плошчы

20 верасня 1916 года нямецкая газета пісала пра незвычайную машыну, якая з’явілася ў цэнтры горада.



Горад і вёска перамяшаліся зараз на Гандлёвай плошчы ў Слоніме. Там ўсталявалі нямецкую малатарню, якая дазваляе мясцовым жыхарам абмалаціць снапы свайго новага ўраджаю. Найчасцей такую машыну ў працы можна ўбачыць толькі ў сельскай мясцовасці, так незвычайна яна выглядала на гарадской плошчы. Сяляне прывозяць снапы на разбітых вазах, далейшую працу ажыццяўляе ўжо машына. Тузіны вазоў стаяць у чарзе, пакуль тарабаніць агрэгат, вазніцы (мужчыны і жанчыны) дапамагаюць у працы і пры гэтым на ўвесь голас гавораць. Воз за возам ад’язджаюць разам са збожжам і саломай. Без сумневу, арганізацыя падобнага клопату нямецкім бокам на захопленай тэрыторыі суправаджаецца дабраславеннямі...

Пераклаў ●Ігар Падгарадзецкі

**Гэта цікавая і важная згадка. Атрымліваецца, што яшчэ царскія рускія ўлады пачалі будаваць у нашым горадзе воданапорную вежу. Шкада, што аўтар не ўдакладніў, у якім менавіта месцы. Няўжо па цяперашняй вуліцы Пушкіна? — “СК”.*




*Канцэрт у цэнтры Слоніма падчас нямецкай акупацыі ў гады Першай сусветнай вайны*

ЗГАДКА

# На магіле Язэпа Стаброўскага ў Орлавічах і Кузьмінічна

Язэп Стаброўскі (1870 — 1968) — беларускі археолаг, краязнавец, гісторык, філосаф, вынаходнік, заснавальнік Слонімскага раённага краязнаўчага музея, адзін са знакамітых слонімцаў XX стагоддзя. Пахаваны ён разам з усімі свамі роднымі на могілках у вёсцы Орлавічы Слонімскага раёна.

1994 год. Набліжаліся Дзяды — памінальны абрад нашых продкаў. Невялікая група слонімскіх энтузіястаў завітала ў Орлавічы. Дзякаваць Богу, жыла побач на хутары яшчэ і Валянціна Кузьмінічна Курыловіч, якая нам падказала, дзе хто пахаваны са Стаброўскіх, дзе які крыж трэба ставіць, успомніла жанчына і пра Язэпа Стаброўскага, які ў свой час перадаў орлавіцкім сялянам у вечнае карыстанне 65 гектараў зямлі...

Зірнула на нас Кузьмінічна і пачала распавядаць: ”Дзедушку нашага даўно ведаю. Працавіты быў, не зухаваты, для людзей харошы. Але пад канец яму плоха жылося. І я насіла яму ў Слонім то малака, то смятанкі, то мукі — што мела... Сама я з Браншчыны. У вайну немцы сюды вывезлі, у лагер “Грыбава”, што пад Слонімам. Сынка майго, Мішку, пад танк бросілі яшчэ там, ля нашай Скробаўкі. Дзевачку, Вальку, тут, у лагеры, смярцельнымі ўколамі закалолі... А я ўцякла з лагера і сюды прыбілася, на хутар. Потым замуж мяне ўзяў Хвіліп Курыловіч, што у Стаброўскіх гадаваўся. Ён, Хвіліп, у шэсць гадочкаў уцёк ад мачыхі і пайшоў, як тады казалі, да пана. І пан, гэта значыць Стаброўскі, прыняў яго, на ногі паставіў. Яны ўвесь час разам былі. І курганы раскопвалі, і камяні тачылі на помнік... Але я не туды забегла! Вам пра самаго Стаброўскага трэба... Так вот. Прыехала да яго аднойчы ў Слонім, а ён пры смерці, просіць: *“Валюшка, перадай людзям, каб не мучыліся, не капалі глыбокую магілку. Зіма стаіць на двары!”*. Ускорасці і



*Валянціна Курыловіч, якая ведала і сябравала са Стаброўскімі, 1 лістапада 1994 года. Фотаздымак Мікалая Супруна*

*На магіле Язэпа Стаброўскага і яго сям'і ў Орлавічах 1 лістапада 1994 года (злева направа)Мікалай Вярбіцкі, Мікалай Супрун, Міхась Варанец з дзецьмі, Мікалай Барысік, Валянціна Курыловіч, Васіль Супрун, Сяргей Чыгрын. Фатаграфаваў Віктар Валадашчук*

памёр. На дзевяноста дзевятым годзе жызні. Да гэтага завейка круціла, снегу намяло, а харанілі — сонечны дзянёк выдаўся. Вот вам і прырода паспачувала. Ад гасцінца труну на плячах неслі... Нашага дзедушку, як звалі яго тут, людзі з усіх дзеравень праводзіць прыйшлі. Жалобны стол у нашай хаце правілі. Мы яе з Хвіліпам якраз там пастроілі, дзе хата Стаброўскага стаяла...".

Кузьмінічна змоўкла. Твар яе па-ранейшаму быў хмуры. Счакала нейкую хвіліну і працягвала: "Вот гэтыя дубовыя крыжы, — на магілах яго блізкіх: жаны Амеліі, сына Міраслава і дачкі Іры. А маленькі крыжык, што прыслонены да помніка, з магілы дзедушкі. Зусім згніў... І магілка з зямлёю зраўнялася... Помнік стаўляў сваім родным Стаброўскі. З маім Хвіліпам. Яны і камяні з поля вазілі, і часалі... Гады са тры іх часалі-тачылі...".

Яна памаўчала трошкі і дадала: "А ён, Стаброўскі, чыста ведаў, што ніхто яму не паставіць помніка... То як бы і сабе паставіў тады яго...".

Мы некалькі гадзін ачышчалі талакой магілы Стаброўскіх у Орлавічах. І ачысцілі, як маглі. Праўда, цяпер магілы там даглядаюцца: штогод праводзяць суботнікі супрацоўнікі Слонімскага краязнаўчага музея, слонімскія кадэты і творчая інтэлігенцыя.



*Язэп Стаброўскі*

●Сяргей Чыгрын

*Фота з архіву аўтара*

# “Слонімшчына. Гістарычныя нататкі”

У мінскім выдавецтве “Беларусь” выдадзена краязнаўчая кніга Сяргея Чыгрына “Слонімшчына. Гістарычныя нататкі”. Яна складаецца з зацемак аўтара, ілюстраваных фотаздымкамі і паштоўкамі.

Гэтая кніга — абноўлены варыянт “Гістарычнай мазаікі Слонімшчыны” (Мінск “Кнігазбор”, 2019). На жаль, аўтарам не былі выпраўлены памылкі і недакладнасці, пра якія “СК” пісаў яшчэ ў траўні.*

А днямі выйшаў з друку другі том “Гістарычнай мазаікі...”.

●Сяргей Ёрш

**Ёрш С. У нашым краязнаўстве не можа быць “зашмат кніг” // Слонімскі край, 2019, № 5(39). Травень. С. 17-19.*




# Помнік Льву Сапегу



22 жніўня ў цэнтры Слоніма ўсталявалі помнік Льву Сапегу (1557 — 1633), дзяржаўнаму дзеячу ВКЛ, канцлеру вялікаму літоўскаму, слонімскаму старасту. Афіцыйнае адкрыццё адбудзецца 1 верасня (пачатак у 11:10), калі ў горадзе будзе адзначацца Дзень беларускага пісьменства і друку (падрабязную праграму свята можна паглядзець на сайце райвыканкама). Помнік вельмі шыкоўна ўпісаўся ў скверык і ўпрыгожыў наш старажытны горад.

Усталяваннем помніка кіраваў народны мастак Беларусі, вядомы скульптар Іван Міско, ураджэнец Слонімшчыны. Ён — адзін з аўтараў праекта.

.●Сяргей Чыгрын

# Выявы пісьменнікаў на паштоўках

Сяргей Чыгрын выдаў у Баранавічах набор з 12 паштовак, прысвечаных слонімскім пісьменнікам, якіх ужо няма сярод нас. Дагэтуль нічога падобнага ў нас не было. Наклад маленькі — усяго 99 асобнікаў.

●СЁ




Усе нумары
“СК”, якія выйшлі на працягу 2016-2019 гадоў,
можна знайсці на сайце інтэрнэт-бібліятэкі “Камунікат” :
http://kamunikat.org/

“Слонімскі край” — гісторыка-краязнаўчае электроннае выданне. Выходзіць раз на месяц.

Заснаванае ў лютым 2016 года

Рэдактар нумару
Сяргей Ёрш

Наш адрас:
slonimskikraj@gmail.com
Спасылка на “СК” пры перадруку абавязковая.